# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:**
Вільня, Вострабрамска вул. 9
(Ostro-bramska 9).
Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аутара і адрэсам для ведама Рэдакцыі. Няпрыінятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 50 м.**
Падпіска на 3 месяцы каштуе 600 м.
(з даст. да хаты).
Цана абвестак: перад тэкстам 200 мк., сярод тэксту 300 мк. і на апошняй страніцы 120 мк. за радок пэтыту у 1 шпальт.

Год II. | Вільня, Субота 14-га кастрычніка 1922 г. | № 26 (51).


Беларусы! Каб і пры выбарах нас не пакрыудзілі, каб не змарнаваліся нашыя галасы, дык неадкладаючы выбірайце на кожны выбарны абвод даверанных ад грамдзянства („mężów zaufania“).

## Парабкі, абудзіцеся!

Пытаньне аб долі нашых дворных парабкоў — гэта балючае пытаньне.

На Захадзе Эўропы, дый у Польшчы яно сяк-так паладжываецца. Тамака парабкі становяць вельмі чысьленую групу сельскіх работнікаў, маюць свае прафэсыянальныя арганізацыі, дабіліся ўстанаўленьня агульнае ўмовы аб варунках найму і ўсей грамадой дабіваюцца паляпшэньня свайго палажэньня. А якую сілу яны тамака маюць, гэта паказвае сёлетняя забастоўка іх, якая ў часе жніва пагражала польскім паном-абшарнікам вялізарнымі стратамі.

У нас парабкі, можна сказаць, зусім не арганізаваны. Праўда, была ў Вільні зроблена спроба стварыць батрацкую арганізацыю, але тут яна, як яшчэ вельмі слабая, малашто здалела зрабіць, дый сустрэла сільны націск з боку адміністрацыі. А тым часам доля нашых батракоў становіцца ўсё больш цяжкай: паны, бачучы іх бязсільнасьць, вычвараюць з імі самыя дзікія рэчы.

Гэтак, з Наваградчыны нам пішуць, што тамака паны завялі вось якую моду. У летку, калі трэба было шмат рабочых рук, яны панабіралі многа парабкоў, умаўляючыся на год. Аднак, як толькі работы ў полі скончыліся, гэтых парабкоў пачалі выкідаць вон—насупроць зімы. Ведама гэта беззаконьне, гэты гвалт, які можа мецца толькі там, дзе народ неарганізованы, дый дзе ўлада знаходзіцца ў руках такіх паноў, як пан ваявода Рачкевіч, каторы ўжо добра даўся ў знакі беларусам і ў Менску, і цяпер у Навагрудчыне.

У зьвязку з выбарнай работай, калі ажывілася гэтак моцна беларуская вёска, пара і нашым парабком падняць галаву, зарганізавацца і прыняць учасьце ў выбарах: яны гэткім спосабам зьвяжуцца з будучымі дэпутатамі і зьвяжуць гэтых апошніх цьвёрдым наказам: **бараніць парабкоў ад панскага зьдзеку, пакуль і іх не надзеляць зямлёй, як гэта павінна быць.**

Парабкі! Арганізуйцеся і падтрымлівайце на выбарах сьпісак № 16; толькі паслы, якія ў ім стаяць,—косьць з косьці і кроў з крыві беларускага сялянства,—толькі яны прымуць шчыра да сэрца вашу справу і будуць вас бараніць.

Парабкі! Памятайце, што ўсе польскія партыі імкнуцца да таго, каб нашай зямлёй надзяліць польскіх сялян — беззямельнікаў, каб вас абярнуць у служак польскіх „осаднікаў“, што маняцца замяніць у нас польскіх абшарнікаў.

Памятайце, што толькі беларускія дэпутаты, папаўшы ў Сойм, будуць бароцца тамака проці польскае калянізацыі ў нашым краю,— значыць, будуць бароцца за зямлю для вас.

Памятайце гэта і галасуйце за сьпісак № 16.

**М. Малішэўскі.**

## ПАНЫ.

Добра знаў панскую натуру наш пісьменьнік, Сымон Рэўка з-пад Барысава.

Ен злажыў песьню, у якой кажа пану так:

Прадай лес да дрэўка—
Будзе сьвежа дзеўка.
Прадай усё чыста—
Будзе срэбных трыста.
Прадай сваю славу,
Прадай і Варшаву,
Прадай і чэсьць дочкі
За віна паўбочкі!

І вось, ня гледзячы на ўсе ўдары, паны ня страцілі апэтыту аж дагэтуль.

Астатнія нумары віленскіх панскіх газэт зьмяшчаюць артыкулы аб так званым „усходнім пытаньні Польшчы“.

Гэтае пытаньне папросту азнача панскую гавэнду аб тым, як лепей і зручней згамаць беларускі народ і вымантачыць у яго зямельку.

Паны спрачаюцца. Адны, якія ўжо пасьпелі прасьвістацца, кажуць: Рыскі мір — гэта добра, і вайсковая калянізацыя на Беларусі — таксама добра.

Другія паны, у якіх засталіся маёнткі пад бальшавікамі, кажуць: не, калісь немцы так рабілі ў Пазнаны з польскім народам і не ператравілі, каб і нам так ня было; ня трэба калянізацыі, а трэба ўсю зямлю пакінуць у паноў ды й адабраць яшчэ Беларусь з нашымі маёнткамі ад бальшавікоў.

А ўсе згаджаюцца на тым, што на заходзе польскаму імпэрыялізму падацца няма куды, затое трэба зьесьці беларусаў.

Ніколі дагэтуль паны так адкрыта ня пісалі.

Увесь час яны дурылі галаву якімі-небудзь сваімі „сьвятымі“ правамі на наш край.

Цяпер, увідзіўшы, што „вызваленцы“ і падобныя да „вызваленцаў“ хітруны завінуліся ля беларусаў зручней за паноў, — вялікія паны загаварылі адкрыта, што ўся „сьвятасьць“ польскіх

Думаць тут няма чаго, а трэба рабіць. Трэба выбіраць даверанага ад грамадзянства, які дапільнуе, каб, кінуты вамі, номер 16 выбіраў таго, каго вы хочыце. З гэтых фактаў мы бачым у якіх абставінах нам прыходзіцца прапаваць. Трэба шмат палажыць працы, напружыць усю энэргію і златнасьць, каб перамагчы перашкоды, каб не змарнаваць так важны для нас час выбараў, і выбраць сваіх прадстаўнікоў—абаронцаў.

Ж.

# КАРЭСПАНДЭНЦЫІ.

## З Навагрудчыны.

У вёсцы Масцішчэ Навагрудзкага павету Рады Людовыя першыя пачалі асьведамляць аб выбарах. Тут ім удалося нават заснаваць свой Камітэт з 9 асоб. Але, як прыехаў я з мандатам ад Б. Ц. В. К-ту ды раскрыў сялянам вочы на гэтыя рады людовыя, дык Камітэт жыва распаўся і быў заснаваны Беларускі Камітэт.

У вёскі: Аць мінава, Заняўшчына і Дзетэмля школьны інспэктар прыслаў польскага вучыцеля, які ня можа разгаварыцца з нашымі сялянамі, бо ні слоўца не разумея пабеларуску, а сяляне—папольску. Ходзіць гэты новы вучыцель па вёсцы, як воўк па лесе. Дзеці ад яго уцекаюць, бацькі чураюцца, абыходзяць. Урэшце надакучыў сялянам гэты анэгдот і загадалі яны дзяцям не хадзіць у школу. І вялікая была радасьць у вёсцы калі я растлумачыў, што можна адчыніць беларускую школу. Заварушыліся сяляне і неузабаве будзе адчынена беларуская школа.

У Уселюбскай гміне войт Сьнігір В. безнаказна самавольнічае. Узяўшы абводавую камісію ў свае рукі ён не запісаў шмат жыхароў, якія яму былі не даўспадобу. Так, з вёс. Гордоўка запісана усяго 4 душы, хоць вёска налічвае 30 хат. Не запісаў Уселюбскага ксяндза і папа, бо па яго уразазуменьню ксендз—літвін, а поп—маскаль, а ён прызнае толькі палякаў.

Калі я быў на зьездзе павятовых прадстаўнікоў у Навагрудку, дык у часе паседжаньня уваходзіць к нам бедна адзеты селянін і кажа: Браточкі, дачуўся я, што тут Беларускі Камітэт і прышоў да вас, каб пажаліцца вам сваёй крыўдаў. Калі я зайшоў у „Польскую пекарню“ на Замковай вул. ды захацеў купіць булачкі хвораму дзіцяці, цык вышла някая пані і, выганячы мяне, сказала: „Тут для хамув хлеба нема“.

Ці ня уздумалі гэта нашыя паны вярнуць паншчыну?

М. Віншукевіч.

# ХРОНІКА.

Як працуюць беларусы. Вучыцель Несьвіжскай беларускай гімназіі Шнаркевіч, на адпаведнасьці якога ляжыць уся беларуская праца ў гімназіі, пасьля вучэбных дняўных заняткаў едзя на вёску з другім вучыцелям Заторынам і вядзе перадвыбарную працу. Шнаркевіч старшыня Несьвіжскага павятовага белар. выбар. Камітэту і кандыдат у Сойм па Навагрудзкаму акругу. Увесь павет моцна арганізаваны і добра асьвядомлены.

Вобыск у гр. Туркевіча, беларускага кандыдата ў Сойм па Віленскаму вокругу, зрабіла Віленская паліцыя з 9 на 10 кастрычніка, забраўшы усю беларускую літэратуру.

У Віленскай Беларускай Гімназіі. На паседжаньні Педагагічнае Рады, адбыўшымся 10 кастрычніка г. г., устаноўлены нармальны ўзрост для паступаючых у гімназію.

Згодна з прынятай пастановай у гімназію будуць прымацца вучні, маючыя стольні гадоў:

У 1 клясу—9-13 гад., у 2—10-14 г. у 3—11-15 г., у 4—12-16 г., у 5—13-17 г., у 6 — 14-18 г., у 7 — 15-19 г. і у 8 — 16-20 г.

У асобных прыпадках могуць быць прыняты вучні ў адпаведныя клясы і вышэй паказаных гадоў, але кожны раз такія прыпадкі павінны разглядацца Педагагічнай Радай.

Навагрудзкая беларуская гімназія. Дзякуючы маскалефільскай працы прат. Кляеўскага становішча гімназіі пагоршалася. Ня гледзючы на тое, што пр. Кляеўскі прыймае выдатную чыннасьць у гімназіі, ён перавёў сваіх дзяцей у польскую гімназію і вядзе барацьбу з беларускімі вучыцелямі.

Як доўга так будзе? „Oddział Prasy.“ Дэлегатуры Ураду ня прыняў ад адной Віленскай беларускай установы заявы аб працанзураваньні канспэкту лекцыі. Прычына адказу тая, што далучаны канспэкт напісаны пабеларуску.

Новыя пьесы. Выйшлі з друку і прадаюцца ў Беларускай кнігарні пьесы: „Нясконченая драма“ ф. Аляхновіча і „Сурдут і сярмяга“ у 3-х актах, пераклад з польскай мовы Абрамовіча.

# Збор на сірот.

ГРАМАДЗЯНЕ! У нядзелю 15 лістапада адбудзецца ў Вільні збор ахвяр на карысьць бедных дзяцей-сірот і паўсірот беларускага прытулку.

Надыходзіць цяжкая поўгалодная зіма. Трэба закупіць патрэбных харчоў. Сучасная дарагоўля не дазваляе даць дзецям мінімум патрэбнага харчаваньня. Дзяцей ў прытулку 96; апрача харчаваньня трэба іх і апрануць, і абуць і вучыць. Без дапамогі з боку, дзецям-сіротам пагражае галадоўля.

Грамадзяне! Падтрымайце бедных дзяцей! Памажыце карміць сірот! Няхай ні адна рука не адхінецца ад скарбонкі зборшчыкаў-ыцаў! Няхай наш „васілёк“, эмблема збору, уквячае кожнага ахвярадаўца.

Беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны.

Грамадзяне! Не адмоўце сіраце ў сваёй ахвяры!



Падтрымайце бедных дзяцей беларускага прытулку!

**Сяляне!** Толькі родная школа навуча і асьвядоміць вашых дзяцей. А у сьвядомасьці наша моц. Дык зьбірайцеся, клапаціцеся і дамагайцеся родных школ, бо вашых вучыцялёў змусілі паехаць у Кракаў на курсы і цяпер аб школе няма каму падумаць. Гады праходзяць, дзеці растуць невучамі, а школ не даюць і якія ёсьць стараюцца зачыніць.

Дык састаўляйце прыгавары, грамадой тэбуйце беларускіх школ! Асьвета—найлепшае аружжа ў змаганьні з ворагамі працоўнага народу і нашае Бацькаўшчыны.

**Пад номярам 16 аб'едналіся ўсе пакрыўджаныя народы ў Польшчы. У грамадзе—сіла!**

**Воля і лад у нашых руках!**

**Як пасцелімся, так і высьпімся.**



Рэдактар-Выдавец Ф. АЛЯХНОВІЧ. Друкарня „ДРУК“ Субач, 2.